## СЛУХАЕМ І СПЯВАЕМ

Змяшчаем словы песні, якую вы пачуеце ў беларускай перадачы па Беластоцкім радыё ў суботу 20 снежня а 18-й гадзіне.

### РЭЧАНЬКА
**(З рэпертуару Фёдара Мікуліча)**

Ой, рэчанька, рэчанька,
Чаму ж ты не поўная?
Люлі, люлі, люлі,
Чаму ж ты не поўная?

Чаму ж ты не поўная,
З беражком не роўная?
Люлі, люлі, люлі,
З беражком не роўная?

А як жа мне поўнай быць,
З беражкажі роўнай плыць?
Люлі, люлі, люлі,
З беражкамі роўнай плыць?

Янка коніка паіў,
Маня воду чэрпала.
Люлі, люлі, люлі,
Маня воду чэрпала.









Елка ў тыграў.

### НА КАНЦЭРЦЕ

— Чаму гэты саліст, спяваючы, глядзіць на столь?

— Мае ўражлівую душу і не можа глядзець, як мучацца слухачы.

### ІДЭАЛЬНЫ СЯРЖАНТ

Малады салдат радавы Абразко ў адкрытай гутарцы з саслужыўцамі заявіў:

— Наш сяржант быў бы ідэальным начальнікам, калі б не патрабаваў ад нас, каб мы былі ідэальнымі падначаленымі.

### НАВІНА

— Чулі, кума?

— Чула, як не чуць! Уся вёска гаворыць!

— Уся вёска?

— Усе, ад старога да малога.

— А пра што?

— Скажыце, буду ведаць.

### ТАКСАМА СЛУЖЫЛА

Бабуля прыехала з сяла ў горад і чытае ўнучцы казку пра Івася-Цялесіка:

— Распаліла Баба-Яга печку і загадала Івасю на лапату сесці...

— Бабуся, а што такое лапата?.. — спытала ўнучка.

— Вось паедзеш у сяло, я табе пакажу лапату! — сказала бабуля.

Дзяўчынка здзіўлена паглядзела на сваю бабулю і са страхам спытала:

— А ты што, таксама калісь Бабай-Ягой служыла?..

### ЗАБАРОНЕНА

У час сваркі жонка запальчыва крычыць:

— Ужо лепш бы я выйшла замуж за чорта, чым за цябе!

— Гэта выключана, — парыруе муж. — Шлюбы паміж найбліжэйшымі сваякамі забаронены.

Скардзіўся лекару на страту памяці, а выпіваць ніколі не забываў.

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

На калядным кірмашы сілач дэманструе сваю моц.

— Хто выцісне з гэтага лімона хоць кроплю соку пасля мяне, атрымае сто долараў! — аб'яўляе ён.

Шчупленькі чалавечак з публікі бярэцца пабіць рэкорд і, не асабліва напружваючыся, выціскае з лімона паўшклянкі соку.

— Нічога дзіўнага, — гаворыць ён. — Вось ужо трыццаць год, як я працую зборшчыкам падаткаў.

✲

— Няшчасны Чэзарэ! Ад яго ўцякла жонка, не пакінуўшы яму ні сольдзі!

— Ну, я, бадай, яшчэ больш няшчасны: мая жонка не пакідае мне ні сольдзі, ды яшчэ і ўцякаць ад мяне не збіраецца.

✲

У хірурга:

— Сястра, што ў нас сёння?

— Два лёгкія выпадкі — аўтамабільная катастрофа, вытворчая траўма — і, адзін цяжкі — муж, які адмовіўся мыць посуд.

### ПЕРАМЕНЫ

Начальнік главка Хітрагляд
Кіруе адмыслова:
Па кадрах настрачыў загад
У знак перабудовы.
Там, дзе сядзелі брат і зяць,
Сват з кумам там ужо
сядзяць.
А дзе сядзелі кум і сват —
Занялі месцы зяць і брат.

**Васіль Маеўскі**

З „Весніка Задрыповіі"

### СПАРТЫЎНАЕ ЖЫЦЦЕ

Ніколі не ставіць сябе над калектывам фігурыст-адзіночнік Д. Дзвынкевіч. За пятнаццаць год выступленняў ён яшчэ ні разу не ўзнімаўся на п'едэстал.

### БАНТОН

Калі позна вечарам сусед за сцяной уключыў магнітафон, а ў вас магнітафона няма — уключыце адначасова палацёр, пральную машыну і пыласос.



Аб'ект будзем здаваць у дзве чаргі. У першую — здамо пляшкі!





КУРЬЁЗЫ

### ЭМАНСІПАЦЫЯ

Пратэстуючы супраць жаночага нераўнапраўя англічанка Ліба Кроал стала майстрам спорту па дзюдо і іншых прыёмах барацьбы. І гэта не толькі для таго, каб даць добрую аплявуху і паставіць на месца нейкага няпрошанага надакучлівага кавалера. Ведаючы, што традыцыйнымі „гарыламі" (целаахоўнікамі) важных персон з'яўляюцца, як правіла, мужчыны, Ліба Кроал вырашыла, што і яна будзе ніколькі не горш у гэтай ролі. Яна працавала ў якасці асабістага ахоўніка ў вядомых зорак эстрады. І ў рэшце рэшт пайшла працаваць „выкідалам" у начны клуб Хенан у Лондане. І трэба сказаць, што вельмі добра ўпраўляецца з упартымі гасцямі, хаця і не любіць хваліцца сваімі спартыўнымі прыёмамі.

— Я не заўсёды лічу патрэбным выкарыстоўваць сілу, — сціпла кажа яна. — Часцей за ўсё я жартам выгурваю хуліганаў вон дзякуючы майму абаянню...

Абаянне абаяннем, а лонданскія выпівакі добра ведаюць яе „жарты", пасля якіх доўга баляць суставы.




**Калі пры сустрэчы з ворагам ты не закасваеш рукавы, значыць, у цябе рукі кароткія.**